


# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 11(681)
Лістапад 2022 г.


# Тэктанічны зрух у жыцьці Вольнага (пакуль) Сьвету

Кожны, хто жыве ў нашыя часы ў ЗША і наагул у Вольным Сьвеце, ня можа не заўважыць зьяваў, што сталі актыўна пашырацца цягам апошніх 3-5 год. Зрабіліся непрэстыжнымі, а нават ганебнымі, прафэсіі паліцаяў, пажарных, вайскоўцаў. Яшчэ раней, у часы руху "Акупуй Уол-Стрыт", ганебнымі сталі прафэсіі біржавых брокераў і фінансавых аналітыкаў. Затое набраў прывабнасьці тэрмін "сацыялізм", для маладых амэрыканцаў крыху экзатычны й загадкавы. Затым зрабілася ганебным быць прадстаўніком белай расы, ад кожнага з іх іншыя, пераважна таксама белыя людзі з мэдыяў і акадэмічнай сфэры, пачалі вымагаць "пакаяцца ў прывілеях", "выявіць свой схаваны расізм", "даць рады ўласнай прадузятасьці (prejudice)". Шмат дзе сталі патрабаваць адмысловага ўжываньня займеньнікаў для сябе й для іншых, ставіць пад сумліў словы "бацька" і "маці", "мужчына" і "жанчына". Часам падаецца, што мы ўсе сталі часткаю невядомай гульні, дзе нябачныя і невядомыя рэжысэры недзе за кулісамі накідаюць грамадзтву ўсё новыя і новыя правілы захоўваньня, і пасьля за выкананьнем гэтага сочыць адміністрацыя ўстановаў, дзе мы працуем, супрацоўнікі аддзелаў кадраў "і пошуку талентаў", а таксама штат спэцыяльна створаных аддзелаў "расавай роўнасьці" і дэпартамэнтаў "разнастайнасьці, раўнаньня і ўлучэньня" (DEI). У грамадзтве, што яшчэ ня так даўно лічылася вяршыняй разьвіцьця чалавецтва, цяпер знайшлі "жудасныя і невыкараняльныя" рысы. І таму самое грамадзтва зрабілі аб'ектам сацыяльнага экспэрымэнту зь невядомым, але прадказальным вынікам.

Шмат што са згаданага вышэй нагадвае зьмест твораў Джорджа Оруэла "1984" і "Ферма", а таксама стылістыку нацыянал-сацыялісцкай і бальшавіцкай ідэалёгій. Толькі ў адрозьненьні ад тых папярэдніх ідэялягічных сыстэмаў новая ідэалёгія "сацыяльнай справядлівасьці" абагаўляе не "вышэйшую расу" або "перадавую клясу". Новым ідэалам робіцца "прагрэсіўная тоеснасьць", і гора тым непрагрэсіўным рэтраградам, што ня хочуць бачыць або прызнаваць новы стан рэчаў. Пакуль іх толькі прылюдна крытыкуюць і звальняюць з працы. Няцяжка ўявіць, што далейшыя меры ўзьдзеяньня будуць менш і менш лібэральнымі.

Як жа сталася так, што ў сучасным грамадзтве, што збудавана на рацыянальным сьветапоглядзе, на гуманістычных ідэях й навуковых дасягненьнях, перасталі працаваць лёгіка і глузд? Магутныя дзяржавы сталі адмаўляцца ад сувэрэнітэту, адкрываючы свае межы, суды з пракуратурай пачалі даглядаць інтарэсы крымінальнікаў замест інтарэсаў грамадзтва, а кожнай групе, што заявіла пра свой "паняволены" стан, стала дазваляцца агрэсіўна прасоўваць свае інтарэсы, гамуючы і адкідаючы правы іншых людзей. Што ж такое адбылося?




Можна сказаць, што адбылася віртуальная рэвалюцыя, спачатку нячутная і нябачная, але пасьля загалёкаўшая: "Далоў 1%!", "Eat the Rich!" і зусім ня так даўно: "Defund the Police" і "Black Lives Matter!" Рэвалюцыя, запалаўшая пагромамі й падпаламі ў Балтымары й Фэргюсане, Мінэапалісе й Мангэтане.

Адукацыя й масмэдыі так падрыхтавалі амэрыканцаў да аспрэчваньня й адкіданьня нормаў і каштоўнасьцяў заходняй цывілізацыі, што грамадзтва стала пакорліва ісьці за антылібэральнымі левакамі, пагарджаючы сваёй уласнай краінай, выказваючы агіду да закону і парадку і дэманструючы нянавісьць да ўзьлётаў і дасягненьняў сваіх папярэднікаў.

Тая актыўна падрыхтоўка, "марынаваньне" грамадзтва, заняла прыблізна тры дзесяцігодзьдзі, і яна мае карані ў постмадэрнісцкіх тэорыях, што біяруць пачатак у ідэях Франкфурцкай школы філязофіі й пісаньнях францускіх антыгуманістаў Фуко і Дэрыды. Вынікам той падрыхтоўкі сталі "рух сацыяльнай справядлівасьці" і "крытычная тэорыя", якія адлюстроўваюць падыход да сацыяльнай філязофіі, што вынікае з постмадэрнізму. Навукоўцы й актывісты прынялі высновы постмадэрнізму за рэальную, аб'ектыўную ісьціну. І зрабілі гэта праз трансфармацыю крытычнай тэорыі ў спрошчаную дагматычную мэтадалёгію, што атрымала назву "навука сацыяльнай справядлівасьці". Да гэтага было далучанае запазычаньне ідэяў бацькі "культурніцкага марксызму" Антоніё Грамшы пра "культурную гегемонію" і падпарадкавальныя дыскурсы. Грамшы вучыў, што для разбурэньня капіталізму патрэбны не рэвалюцыйны гвалт, як пастуляваў Маркс, але дасягненьне "культурніцкай гегемоніі" праз замену ключавых ідэяў і каштоўнасьцяў, на якіх грунтуецца грамадзтва. Для гэтага мусіць быць зьнесенае ўсё, на чым стаіць "калыска капіталізму" – Заходняя цывілізацыя. А менавіта: рацыянальнасьць, веда, хрысьціянства, лібэралізм, традыцыйная сям'я, прыродная роля мужчыны й жан-

*працяг на бачыне 2*

# Тэктанічны зрух...

*працяг з бачыны 1*

чыны, Дэкартава лёгіка, гонар за дасягненьні эўрапэйскай культуры, павага да закону. Словам, усё, што складае канон заходняга хрысьціянства, абвяшчалася варожым і вартым зьнішчэньня.

Такім чынам, калі капіталізм у вачах “пераўтваральнікаў” зрабіўся ўжо ня спосабам вытворчасьці, але пэўнай культурай, увасобленай у глуздах і пачуцьцях, дык і асяродак змаганьня перасунуўся з фабрыкаў і заводаў у культурніцкі абшар і ў сфэру грамадзкай думкі. Агентамі пераменаў сталі акурат інтэлектуалы, што асудзілі й адрынулі існаваўшыя дасюль “фетышызм” і мэханізмы “ідэалягічнага кантролю” — каб замяніць іх сваімі.

Калі пралетарыят у вачах “прагрэсіўнікаў” страціў свае рэвалюцыйныя рысы, набываючы статус “сярэдняе клясы” або буржуазіі, тады і марксізм міграваў з фабрыкаў ва ўнівэрсытэты, дзе і пачалося, парадаксальным чынам, змаганьне з эўрапэйскімі каштоўнасьцямі й заходняй цывілізацыяй. Ідэалёгія, выпрацаваная ў выніку структуралістамі й постмадэрністамі, паставіла пад пытаньне сам канцэпт “здаровага сэнсу” і ягонае інаванне ў сьвеце, ягоныя формы структураваньня і фармаваньня грамадзтва. Поруч са здаровым сэнсам пачалі аспрэчывацца лібэральны індывідуалізм, правы асобы і прыватная ўласнасьць. Пад прэтэкстам змаганьня з “заплямленай”, “прагніўшай” спадчынай капіталізму, скрайне левыя сілы стварылі наскрозь дагматычную фундамэнталісцкую ідэалёгію, скіраваную на пытаньні арганізацыі чалавечага грамадзтва. Атака на традыцыйныя каштоўнасьці вялася з двух флянгаў. На адным ішло “выкрываньне” схаваных грахоў і перадузятасьцяў: культура — расісцкая, навука — дыскрымінацыйная, грамадзтва — базуецца на “белых прывілеях” і г. д. Паралельна цэлы час сьцьвярджаецца, што ўсё адносна, аб’ектыўнай ісьціны няма, а ёсьць “сацыяльныя канструкты дадзенай групы.” А на другім флянгу прасоўваліся ідэі аб тым, што ўсё вызначаецца тоеснасьцю, і ўсё мусіць аналізавацца праз прызму маркераў тоеснасьці: расы, полу, гендару, сэксуальнасьці, фізычнага стану, канстытуцыі цела, этнічнага паходжаньня і падобна.

Мэтай “навукі сацыяльнай справядлівасьці” ёсьць зрабіць праблемы грамадзтва, сапраўдныя і ўяўныя, “больш відавочнымі”, даказаць людзям, што яны паняволеныя — незалежна ад таго, наколькі яны могуць быць шчасьлівыя й задаволеныя — аж покуль людзі не пачнуць ненавідзець сваё грамадзтва і не паўстануць супраць яго. І такая зьява, што атрымала назву “крытычная расавая тэорыя” — гэта частка той індактрынацыі й пераўтварэньня грамадзтва, што выкарыстоўваюцца для вышэйпазначанай мэты. Але гэта толькі адна частка. Для кожнага сэгмэнту грамадзкага жыцьця прыдуманыя адмысловыя тэорыі: посткаляніяльная — для разбурэньня падтрымкі заходняй цывілізацыі, “квір”-тэорыя (Queer Theory) — для ліквідацыі канцэпту нормы, расавая — для ўвядзеньня расавай разьяднанасьці ў кожны аспэкт сучаснасьці, фэмінісцкая і гендарная тэорыі для разьяднаньня грамадзтва праз “выкрыцьцё” панявольваючага ўзьдзеяньня патрыярхату і мужчынскага, гетэра- і цыс-шавінізму.




Тымчасам тэорыя постмадэрнізму, што ўяўлялася фантазыяваньнем купкі адарваных ад жыцьця інтэлектуалаў, пачала ўвасабляцца ў рэальнасьці. З унівэрсытэцкіх аўдыторыяў яна стала выходзіць у шырокі сьвет, і адпаведна апрацаваныя адэпты сталі зьяўляцца ва ўсіх сфэрах і прафэсіях. Згодна з мэтадалёгіяй “сацыяльнай справядлівасьці”, улада не сыходзіць зьверху, як у марксызме, але прапітвае ўсе ўзроўні грамадзтва і падтрымліваецца кожным праз рутынныя ўзаемадачыненьні, закладзеныя чаканьні і адмыслова сканструяваныя дыскурсы. І вось у выніку, у асаблівым “паўфінале”, які мы бачым сёньня, пераважная большасьць грамадзтва, што атрымала адукацыю ў апошнія 20-30 год, падтрымлівае і ўвасабляе ў жыцьцё тыя постмадэрнісцкія, “сацыяльна-справядлівыя” нормы, якія ўжо амаль цалкам апанавалі сыстэму адукацыі й выхаваньня. У сваю чаргу гэтая сыстэма натуральным чынам, праз шматгадовае прадукаваньне кадраў, паўплывала літаральна на ўсе дзялянкі, куды пайшлі працаваць выпускнікі. Гэта і мэдыі, і палітычныя партыі, забаўляльная індустрыя, суд і пракуратура, дзяржадміністрацыя, ФБР і ЦРУ, а цяпер таксама вялікі бізнэс і ўзброеныя сілы.

Такім чынам мы бачым, што на сёнешні дзень постмадэрнісцкая тэорыя, завуаляваная як “сацыяльная справядлівасьць”, без выразных штабоў і правадыроў, без штурму пошты й тэлеграфу, без караблёў і танкаў і амаль без аніякага супраціву заняла ўсе стратэгічныя пазыцыі, усе камандныя вышыні ў амэрыканскім грамадзтве, а таксама ў грамадзтвах іншых краінаў Вольнага Сьвету. Адпаведна ўсё грамадзтва адчула зьмены, але рэдка хто мае дакладнае ўяўленьне пра тое, адкуль яны ўзяліся. Аднак большасьць лічыць, што “новыя парадкі” — напрыклад, падаткі на экалёгію, трэнінгі на працы па “ўсвядомленьні праяваў белага супрэматызму”, ужываньне займеньнікаў кшталту “she/her/hers” пасьля імя ў афіцыйным мэйле, адчуваньне небясьпекі карыстаньня сабўэем, прапановы не выклікаць паліцыю, а самаму праводзіць дээскаляцыю, калі нападае злачынца — гэта проста слушная і натуральная рэакцыя на жыцьцёвыя абставіны, у тым ліку на “зьмену клімату”, “нутраны расізм і гамафобію грамадзтва” і “масавую інкарцэрацыю”.

Фактычна на заходняе грамадзтва накладзеная каставая мярэжа, людзі сталі дзяліцца на новыя касты, у якіх адлюстраваныя нейкія зьнешнія, фармальныя прыкметы асобы, але якія былі прагалошаныя “тэорыяй сацыяльнай справядлівасьці” вызначальнымі й найбольш важнымі. Такім чынам, славуты сказ Мартына Лютара Кінга пра ягоную мару: каб ягоных дзяцей судзілі па характару, але не па колеры скуры — быў пастаўлены з ног на галаву. І цяпер не ха-

*заканчэньне на бачыне 4*

# Асацыяцыя Беларусаў у Амэрыцы (АБА)

## ABA - ASSOCIATION OF BELARUSIANS IN AMERICA

Арганізацыя Беларусаў у Амэрыцы (АБА) была створаная два гады таму і зарэгістраваная на пачатку 2021 г. АБА аб'яднала актыўных беларусаў з шмат якіх гарадоў і штатаў ЗША і задумвалася як плятформа, якая б злучала намаганьні актывістаў розных арганізацыяў па ўзмацненьні беларускай прысутнасьці ў Амэрыцы, па захаваньні й разьвіцьці беларускай культуры сярод прадстаўнікоў беларускай грамады ў ЗША і пашырэньні дапамогі Бацькаўшчыне праз падтрымку сілаў, што змагаюцца там за свабоду і дэмакратыю. Прэзыдэнткаю АБА зьяўляецца Надзея Нортан з Сан-Францыска.

Жнівень 2020 году падштурхнуў шмат каго зь беларусаў да пошукаў шляхоў, праз якія можна было б дапамагаць землякам у Беларусі й за яе межамі, а таксама як далучыцца да беларускай дзейнасьці ў мясьцінах, дзе яны жывуць. На акцыі салідарнасьці выходзілі тысячы чалавек, пачалі ствараца онлайнавыя групы ў розных штатах. Людзі шукалі выхаду сваім эмоцыям, свайму новапаўсталаму адчуваньню прыналежнасьці да свайго народу, далучанасьці да ягонага лёсу.

Адною з асноўных мэтаў АБА стала ажыцьцяўленьне каардынацыі дзейнасьці для арганізацыяў, беларускіх суполка, разнастайных па геаграфіі, па сваёй колькасьці, па ўзроўню актыўнасьці. Летам 2020 самаарганізаваліся новыя беларускія суполкі ЗША і актывізаваліся, якія ўжо існавалі да 2020. Пачалі ладзіць шматлікія акцыі салідарнасьці, маршы, мітынгі, пратэсты, звароты да амэрыканскіх прадстаўнікоў улады на розных узроўнях, на базе гэтай энэргіі і ўтварылася АБА, пачалася супраца з рознымі суполкамі й іншымі арганізацыямі беларусаў. У 2021 па ініцыятыве АБА Дзень Волі адбыўся у больш як 20 гарадох. Разам з Belarus Freedom Forum АБА ініцыюе звароты, пэтыцыі і мэмарандумы да амэрыканскага ўраду і ўрадаў краінаў Вольнага Сьвету, актыўна дапамагала ў кампаніі збору за прыняцьцё Акта ў падтрымку дэмакратыі ў Беларусі ў ЗША. АБА праводзіць акцыі культурніцкага кшталту, выставы, прэзэнтацыі, традыцыйныя сьвяты (Каляды, Купальле), дэманстацыі фільмаў, арганізацыі канцэртаў. Людзям цікава, і яны хочуць працягваць сустракацца, калегавацца, супрацоўнічаць зь землякамі, знаходзіць аднадумцаў, вызначаць далейшыя кірункі спруцоўніцтва, напрыклад, па праектах у IT-сфэры, у розных галінах бізнэсу, у музычных імпрэзах. АБА праводзіць публічныя і непублічныя зборы сродкаў на падтрымку дзейнасьці, накіраваную на стварэньне дэмакратычнай Свабоднай Беларусі і падтрымку ахвяраў лукашэнкаўскага рэжыму.

Прэзэнтацыі АБА пасьля афіцыйнай рэгістрацыі адбыліся ў розных суполках у Сан-Францыска, Філядэльфіі, Нью-Ёрку, Вашынгтоне, Бостане і Чыкага ды іншых месцах. Чым большай будзе супраца, тым мацней будуць і паасобныя арганізацыі, і тым разнастайней і цікавей будзе дзейнасьць суполак.

Аб'яднаўчая місія ўключае вызначэньне плянаў на будучыню, абмеркаваньне кірункаў супрацы, ацэнку магчымасьцяў і тых праектаў, на якія можна "замахнуцца". Асабістыя сустрэчы таксама важныя і вядуць да больш шчыльнага супрацоўніцтва, з жывым чалавекам заўсёды адчуваешь далучаннасьць да грамады.

Паколькі найважнейшым вынікам уздыму 2020 году стала адчуваньне супольнасьці, лучнасьці, імпульс нешта зрабіць, спрычыніцца да жыцьця сваёго народу – вельмі патрэбна захаваць і пашырыць гэты духовы ўздым, энтузіязм, што схамянуў людзей, як на Бацькаўшчыне, так і тут у нас на чужыне. А гэта можна высьветліць і вызначыць, толькі камунікуючы і супольна разважаючы й спрабуючы.

Важна таксама, каб беларусы на Бацькаўшчыне ведалі, што яны не адныя, не сам-насам з рэжымам. Ідзе актыўны збор сродкаў на розныя дабрачынныя мэты па матэрыяльнай дапамозе, найперш пацярпелым ад рэпрэсіяў.

Часам далучаюцца ўкраінцы, і яны адзначаюць актыўнасьць і крэатыўнасьць беларусаў. У цяперашні час, калі ва Ўкраіне ідзе вайна супраць расейскай агрэсіі, беларусы шмат дапамагаюць сваім украінскім братам і сёстрам, і таму АБА актыўна ўдзельнічае ў праектах па зборы сродкаў для пацярпелых ад вайны, гуманітарнай дапамозе беларускім дабраахвотнікам ва Ўкраіне, для параненых і сем'яў загінуўшых.

***Надзея НОРТАН***




У лістападзе 2022 г. выйдзе ў сьвет чарговы нумар літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа ***"БЕЛАРУС"***.

Пра месца і час правядзеньня прэзэнтацыі будзе паведамлена на старонцы Згуртаваньня "Пагоня" ў Фэйсбуку. Сачыце за абвесткамі.

Калі ласка, падтрымайце працу аўтараў і выдаўцоў гэтага каштоўнага выданьня сваімі замовамі. Кошт гэтага нумару з дасылкаю ў межах ЗША **$20**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$22**.

Папярэднія замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара **Marat Klakotski**.

Замовіць новы нумар пасьля выхаду ў сьвет можна будзе таксама і ў інтэрнэце на старонцы ***e-krama.com***.

# Жэрдкі ў плоце

Столькі фактаў памянялася на сьвеце з часу маёй школы. Амазонка апярэдзіла Ніл па даўжыні. Пры тым, што па факце, нічога не зьмянілася, проста палічылі трохі інакш і вуаля. Нядаўна Індыя перагнала Кітай па колькасьці насельніцтва, і гэта толькі таго насельніцтва, якое больш-менш падлічана. У рэчаіснасьці, людзей у Індыі можа быць яшчэ больш чым мяркуецца.

Пра зьмену насельніцтва ў некалькі мільярдаў ледзь ня кожную дэкаду я ўжо маўчу. Але хваляваца няма чаго, плянэта памесьціць і ў сто разоў болей насуперак Гейтсам і каманьдзе.

А помніце колькі разоў туды-сюды цёгалі цэнтар Эўропы. І я не пра тыя дзясяткі розных цэнтраў Эўропы, раскіданых па розных краінах. Я пра наш, тутэйшы, прагматычны перанос з возера Шо ў цэнтар Полацка, дзе гэты брэнд проста прасьцей выкарыстоўваць у турыстычных мэтах. Што ўжо казаць, калі нават найстарэйшая дуда пераехала зь Лепеля (Верабкоў) у Глыбокае (Верацеі)... і пастарэла на 28 гадоў. Да апошняга факту я сам нават руку, так бы мовіць, прыклаў. На нешта мы маем уплыў, на нешта не...

Адна мая знаёмая немка расказвала мне, што ня можа пагадзіцца з татальнай цэнзурай свабоды мысьленьня і выказваньня ў краіне. Пры тым, усё сваё жыцьцё яна адносіла сябе да левых. Нядаўна псыхоляг паставіў ёй дыягназ “няўменьне дастасаваньня да хутказьменьлівай рэчаіснасьці”. Вось такі, саркастычны, модны прыгавор. Пераіначыць, паставіць з ног на галаву, а пасьля скінуць віну на таго, хто стараецца стаяць на першых і думаць другім, а ня трэцім, тым што ззаду.

Як шмат павінна зьмяніцца, каб усё засталося па-старому. Цытата, але ня помню з каго.

***Віталь ВОРАНАЎ***

## Тэктанічны зрух...

***заканчэньне з бачыны 2***

рактар і дзеі чалавека, абвяшчаюцца вызначальнымі. Цяпер вызначальнай абвяшчаецца прыналежнасьць да сваёй каставай групы.

Як так сталася, што “рух сацыяльнай справядлівасьці”, які мае мала агульнага з агульнапрынятым паняцьцем справядлівасьці і зьяўляецца хіба асацыяльным, крочыць пераможным шэсьцем па краінах Вольнага Сьвету, а “крытычная тэорыя”, часам хаваючы свой сапраўдны назоў, дэфармуе і нявечыць сьветапогляд вучняў і студэнтаў ва ўстановах адукацыі, а пасьля і ў рэальным жыцьці?

Пакуль будучыя навукоўцы знойдуць вычарпальны адказ на гэтае пытаньне, ужо цяпер можна канстатаваць наступнае: як аказваецца, дэмагогія можа пасьпяхова прасоўваць абсурдныя рэчы, і вельмі цяжка абараняць рэчы відавочныя, лягічныя і агульнапрынятыя – калі яны трапляюць пад выкшталцоную, масавую і бесперапынную атаку спрактыкаваных дэмагагічных сілаў. З псыхалягічнага пункту гледжаньня вядома, што калі з усіх бакоў пачынаюць казаць, што белае – гэта чорнае, дык чалавек пачынае бачыць у тым белым цёмныя адценьні. У звычайнага сярэднестатыстычнага чалавека проста не стае аналітычных інструмэнтаў і катэгарыяльнага апарату, каб супрацьстаяць накату дыскрэтных субтыльных тэорыяў пра няслушнасьць лёгікі й здаровага сэнсу і закідам, што ён “усё роўна расіст, нават калі такім сябе ня лічыць”. Другой прычынай пасьпяховага прасоўваньня абсурду, безумоўна, ёсьць баязьлівасьць і абыякавасьць людзей, якія маглі б выкрыць і спыніць гэтае вар'яцтва.

Але пры ўсім гэтым здаровы сэнс і лёгіка застаюцца адзіным эталонам слушнасьці, а яшчэ – вартасьць чалавечага жыцьця. Цяжка верыць людзям, якія ставяць інтарэсы злачынцаў вышэй за бясьпеку іхных ахвяраў, што яны шануюць чалавечае жыцьцё. Цяжка верыць у лягічнасьць тых, што ставяць інтарэсы замежных краінаў вышэй за пэрспэктывы разьвіцьця ўласнай краіны. Цяжка верыць у глузд тых, што ставяць інтарэсы нелегальных мігрантаў – вышэй за дабрабыт уласных грамадзянаў.

У нашых сілах спыніць гэты тэктанічны зрух у грамадстве – але ці зможам, ці здужаем? Ва ўсім гэтым нагрувашчаньні ідэяў ня так і цяжка разабрацца, варта толькі мець волю да гэтага і жаданьне зразумець, што ўсё ж адбываецца навокал. Калі з вачэй спадае заслона постмадэрнісцкага ачмурэньня, становяцца яныя мэты й мэтады новых змагароў супраць капіталізму, “дэмакратычных сацыялістаў”, то бок новых утапістаў, што зноў спрабуюць збудаваць сацыялізм і камунізм, але з новым “амэрыканскім” тварам. Ужо цяпер па таталітарных праявах відаць, што вынік быў бы ня менш жудасны за ўсе папярэднія ўвасабленьні. Як казала некалі анэкдатычнае Армянскае Радыё, “сацыялізм у асобна ўзятай краіне збудаваць можна, але краіну шкада”.

***Віталь ЗАЙКА***

## Абвестка

Сходы Згуртаваньня “Пагоня”, якія звычайна адбываліся ў другую суботу кожнага месяца, часова (да адмены ўладамі г. Нью-Ёрку забароны на правядзеньне масавых мерапрыемстваў) праходзіць ня будуць.

--------------------

*Аб імпрэзах, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоняй”, можна даведацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### *Шаноўныя сябры Згуртаваньня “Пагоня”!*

*Калі ласка, сваечасова аплочвайце гадавыя сяброўскія складкі і абнаўляйце падпіску на інфармацыйны бюлетэнь **“Весткі й Паведамленьні”.** (Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на канвэрце справа ад прозьвішча.)*

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”**
***Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь **“Весткі й Паведамленьні”** можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*